# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№6 (205)

чэрвень 2019




Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### Адбылося пятае пасяджэнне Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа з удзелам "Бацькаўшчыны"

У Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь адбылося пятае пасяджэнне Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа, якое адкрыў міністр замежных спраў Уладзімір Макей.

Старонка 2

### Мюнхенская "Бацькаўшчына" і нью-ёркскі "Беларус": кніга пра дзве легенды беларускай эміграцыі

Вядомыя даследчыкі беларускай эміграцыі Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч працягваюць дзяліцца знойдзенымі скарбамі з усімі цікаўнымі праз кніжную падсерыю "Спадчына: агледзіны" "Бібліятэкі Бацькаўшчыны".

Старонка 2

### Медалі да стагоддзя БНР, уручаныя ў чэрвені

Медалі ўручалі ў Варшаве, Лондане, Нью-Ёрку, Празе, Віцебску і Мінску.

Старонка 8



## У МІНСКУ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ВАСІЛЯ БЫКАВА

19 чэрвеня на Усходніх могілках літаратары, грамадскія дзеячы, палітыкі, журналісты, аддалі даніну павагі Васілю Уладзіміравічу Быкаву, якому магло б споўніцца 95 год.

Ушанаваць памяць выдатнага беларускага празаіка, мысляра, народнага пісьменніка Беларусі і першага прэзідэнта ЗБС "Бацькаўшчына" прыйшлі дзясяткі творцаў, сяброў і проста неабыякавых грамадзянаў.

Пасля традыцыйнага ўскладання кветак, якое ладзіцца Саюзам беларускіх пісьменнікаў штогод, каля магілы пісьменніка адбыўся кароткі мітынг. Словы сказалі старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, дэпутат Вярхоўнага Савета, пісьменнік Сяргей Навумчык, паэт Сяргей Законнікаў, загадчык аддзела Музея гісторыі беларускай літаратуры Вольга Гулева, літаратуразнаўца прафесар БДУ Вячаслаў Рагойша, паэт Васіль Жуковіч, паэт Георгій Ліхтаровіч, прыхільнікі творчасці Быкава.

lit-bel.org

## СЛУЦКІ ПОЯС, ЗУБР І КАНЮШЫНА – НОВЫЯ ЦІШОТКІ АД "БУДЗЬМЫ" ЎЖО Ў ПРОДАЖЫ!

Што агульнага паміж канюшынай, зубром і слуцкімі паясамі? Усе гэтыя сімвалы Беларусі цяпер на новых цішотках ад кампаніі "Будзьма беларусамі!".



Слуцкі пояс – дарагі і вельмі адметны аксесуар, які насілі нашыя продкі. Традыцыя вырабу гэтых паясоў сягае ў XVIII стагоддзе. Наяўнасць пояса сімвалізавала заможнасць і прыналежнасць да эліты. Сёння слуцкі пояс – скарб беларускай культуры. Адзінкавыя экзэмпляры захоўваюцца ў Беларусі, а большасць знаходзіцца ў калекцыях па ўсім свеце.

Дзе можна набыць новыя цішоткі і торбы з дызайнам ад кампаніі "Будзьма беларусамі!"чытайце на сайце budzma.by.

**навіны "Бацькаўшчыны"**

# АДБЫЛОСЯ ПЯТАЕ ПАСЯДЖЭННЕ КАНСУЛЬТАТЫЎНАГА САВЕТА ПА СПРАВАХ БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА З УДЗЕЛАМ ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

У Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь адбылося пятае пасяджэнне Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа, якое адкрыў міністр замежных спраў Уладзімір Макей.



У мерапрыемстве ўзялі ўдзел міністр інфармацыі Аляксандр Карлюкевіч, члены Савета з 17 краін, а таксама прадстаўнікі дзяржаўных устаноў Беларусі, грамадскіх аб'яднанняў. Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" прадстаўлялі яго кіраўніцы Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская.

Падчас пасяджэння ўдзельнікі Савета падвялі вынікі работы за год і намецілі новыя сферы сумеснай дзейнасці па умацаванні сувязей паміж дыяспарай і беларускай дзяржавай.

У сваім выступленні У.Макей адзначыў, што культурна-гуманітарнае супрацоўніцтва з дыяспарай, якое асабліва паспяхова развівалася ў апошнія гады, можа стаць добрым прыкладам для ўзмацнення іншых напрамкаў узаемадзеяння, такіх як адукацыя, навука, турызм, падтрымка моладзі. Падкрэсліў каштоўнасць унёску дыяспары ў працэс вяртання на радзіму спадчыны яе знакамітых сыноў і дачок, што працуе на ўмацаванне нашай нацыянальнай ідэнтычнасці.

У.Макей выказаў удзячнасць прадстаўнікам беларускай дыяспары ў Германіі, Ізраіле, Кыргызстане, Літве, Латвіі, Малдове, Польшчы, Расіі, Чэхіі і іншых краінах замежжа за іх актыўнае прасоўванне эканамічных інтарэсаў Беларусі за мяжой.

За плённую работу па папулярызацыі беларускай культуры і значны ўклад ва ўмацаванне іміджу нашай краіны Міністр замежных спраў узнагародзіў восем замежных членаў Савета юбілейным медалём "100 гадоў дыпламатычнай службе Беларусі". У.Макей выказаў упэўненасць, што гэта высокая ўзнагарода будзе яшчэ больш натхняць на новыя добрыя справы на карысць нашай Радзімы.

Паводле facebook.com/belarusmfa

**навіны "Будзьма беларусамі!"**

# ЗАГАДКІ ГЛІНЫ АБО ЯК ЗРАБІЦЬ І ЯК ВЫБРАЦЬ ЭКСКЛЮЗІЎНЫ ПОСУД

Букеты палявых кветак, зялёнае лісце, галінкі - для чаго гэта? – дзівіліся наведнікі майстар-класа па вырабе керамічнага посуду 6 чэрвеня, пабачыўшы такі набор на стале побач з інструментамі і глінай.

"Гліна мае сваю памяць, – растлумачыла майстар-кераміст Наталля Цэван, – яна запамінае любыя рэльефы, якія да яе прыціскаюцца. Гэтай якасцю гліны мы сёння скарыстаемся і зробім летні набор посуду з кветкамі і лісцем".

"Гліна – матэрыял-загадка. Ён аднапачасова просты, вельмі шырока распаўсюджаны і ў той жа час загадкавы, бо дакладны склад гліны дагэтуль да канца не вывучаны. А як вы думаеце, хто першы пачаў ляпіць – жанчыны ці мужчыны?" – запытала Наталля.

Аказалася, што першымі з гліны пачалі ляпіць рукамі жанчыны. А калі прыдумалі ганчарнае кола, то за справу ўзяліся мужчыны, і традыцыйна ганчарамі былі менавіта мужчыны.

Распавядаючы пра традыцыйныя спосабы дэкору керамікі, Наталля паказала фота-загадку глінянага посуду з незвычайным дэкорам.

"Здагадайцеся, якім чынам тут зроблены дэкор", – заахвочвала да мазгавога штурму майстрыха. Але гэтую загадку так ніхто не адгадаў.

Выявілася, што дэкор зроблены пры дапамозе закваскі. Заквашваюць капусту ці буракі, робяць хлебную закваску або нейкую іншую, туды акунаюць гарачы посуд, і закваска пакідае прыгожы ўзор.

"Калі выбіраеце керамічны посуд ручнога вырабу, звяртайце ўвагу на спосаб апрацоўкі керамікі", – параіла Наталля.

Традыцыйныя спосабы апрацоўкі, якія з даўніх часоў былі папулярныя ў Беларусі – гэта дымленнне, вашчэнне, малачэнне.

Спосабам дымлення атрымліваецца чорная, дымлёная кераміка. Эфект дасягаецца ў спецыяльных горнах, дзе ствараецца безкіслароднае асяроддзе і паляцца смалістыя дровы. Вашчэнне – апрацоўка керамікі расплаўленым воскам. Пры дапамозе малачэння – калі посуд паліваецца малаком і абпальваецца – атрымліваецца прыгожы цёмна-карычневы посуд, у якім вельмі добра запякаць і тушыць. Але, паводле слоў Наталлі, за такім посудам трэба правільна даглядаць. Час ад часу яго трэба пракалiваць у духоўцы на мксімальнай тэмпературы, таму што апрацаваную такімі традыцыйнымі спосабамі кераміку немагчыма дасканала адмыць.



"Самы гігіенічны посуд – посуд з палівай, – гаворыць Наталля. – Гэта фактычна тонкі слой расплаўленага шкла, які пакрывае чарапок. Шкло запаўняе ўсе поры керамікі, яны цесна і неразрыўна склейваюцца, і такі посуд лёгка мыць".

Паліва заўжды была дарагой, таму традыцыйна ў Беларусі актыўна выкарыстоўвалі іншыя спосабы апрацоўкі керамікі – дымленне, вашчэнне, малачэнне.

Падчас майстар-класа Наталля паказала наведнікам асноўныя прыёмы ручной лепкі з гліны. Кожны выбраў сабе па душы кветкі і лісткі, адбіткі якіх будуць на кубачках і сподачках. Большасць удзельнікаў упершыню мела справу з глінай, аднак пад кіраўніцтвам майстра ўсе здолелі стварыць свае маленькія шэдэўры для ідэальнага сняданку. Праз некалькі тыдняў пасля двух абпалаў кожны ўдзельнік майстар-класа атрымае свой эксклюзіўны набор посуду, якім можна карыстацца штодня.

Мерапрыемства праходзіла ў Камп'ютарнай акадэміі "ШАГ" у межах цыкла майстар-класаў "Беларускія рамёствы. Традыцыі і сучаснасць". Працяг цыкла будзе ўвосень. Інфармацыя пра гэта будзе публікавацца на сайце кампаніі "Будзьма беларусамі!".

budzma.by

кніга

# МЮНХЕНСКАЯ "БАЦЬКАЎШЧЫНА" І НЬЮ-ЁРКСКІ "БЕЛАРУС": КНІГА ПРА ДЗВЕ ЛЕГЕНДЫ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

Вядомыя даследчыкі беларускай эміграцыі кандыдат гістарычных навук Наталля Гардзіенка і кандыдат філалагічных навук, бібліятэказнаўца Лявон Юрэвіч працягваюць аглядаць гэтак званыя lieux de memoire – месцы памяці беларускага жыцця ў замежжы. А пасля дзяліцца знойдзенымі скарбамі з усімі цікаўнымі праз кніжную падсерыю "Спадчына: агледзіны" "Бібліятэкі Бацькаўшчыны".

Назва чарговай падрыхтаванай імі анталогіі "Газеты «Бацькаўшчына» і «Беларус». Выбранае" гаворыць сама за сябе – гэтым разам гісторыкі спынілі ўвагу на найбуйнейшых беларускіх перыёдыках эміграцыі. Але прычына такога выбару не толькі ў тым, што на шчасце ці на жаль, многія са змешчаных у кнізе грунтоўна пракамэнтаваных артыкулаў да сёння не страцілі актуальнасці. Змушаная адасобленасць беларускіх эмігрантаў ад суродзічаў з метраполіі, цьмяныя перспектывы што да ўз'яднання з імі на роднай зямлі і першыя прыкметы асіміляцыі сталіся той прычынай, якая прымусіла стваральнікаў і супрацоўнікаў гэтых газет ускласці на сябе адмысловую місію. І, зважаючы на 637 нумароў мюнхенскай "Бацькаўшчыны" і 70-гадовую гісторыю нью-ёркскага "Беларуса", які выходзіць і цяпер, гэтую місію яны выканалі бліскуча. Пра няпростыя варункі нараджэння прэсы беларускага замежжа можа сведчыць, да прыкладу, такі факт: рэдакцыя, адказная за падрыхтоўку першых нумароў "Бацькаўшчыны", месцілася ў лагеры для перамешчаных асобаў ("ды-пі") у Остэргофене.

З аднаго боку, "побытавыя" зацемкі, кароткія паведамленні, рэкламныя абвесткі, у тым ліку прыватныя, ліставанне з чытачамі, віншаванні з урачыстымі падзеямі і да таго падобныя матэрыялы дапамагаюць даследчыкам з вялікай дакладнасцю ўзнаўляць хроніку і падрабязнасці пасляваеннага эміграцкага побыту, аналізаваць шляхі рассялення беларусаў па ўсім свеце і г.д.

З іншага боку, задавальняючы культурніцкія патрэбы сваіх чытачоў, азначаныя выданні разам з тым адыгралі істотную ролю ў справе сведчання пра Беларусь і беларускую культуру за мяжой. І ўжо праз кароткі час ад пачатку іх існавання дазволіць сабе раскошу заплюшчваць вочы на выдавецкія ініцыятывы эмігранцкіх рэдакцый у, здавалася б, надзейна ізаляванай ад інфармацыйнага ўплыву Захаду БССР ужо не маглі. Хоцькі-няхоцькі, але савецкая прэса ўступіла ў апасродкаваны дыялог з беларусамі замежжа, хай сабе і ў форме знішчальнай крытыкі і наўпростых паклёпаў. Але галоўнае іншае: прызнаць існаванне такой інстытуцыі як прэса беларускага замежжа аўтаматычна азначала змірыцца таксама і з паспяховым існаваннем іншых замежных беларускіх інстытуцый – палітычных, сацыяльных, духоўных. Каб даведацца пра новыя пастановы несавецкага беларускага ўрада, пераканацца ў існаванні насычанага культурнага жыцця шматлікіх беларускіх асяродкаў па ўсім свеце і нават атрымаць уяўленне аб духоўным жыцці прыхаджанаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы варта было проста пагартаць старонкі таго ж "Беларуса".

Складаючы чарговую анталогію, укладальнікі ставілі перад сабой мэту падаць найбольш характэрныя для газет "Бацькаўшчына" і "Беларус" тэксты, захаваўшы пры гэтым баланс паміж іх актуальнасцю, цікавасцю для шараговых чытачоў і меркаваным інтарэсам з боку прафесійных гісторыкаў.

Сярод аўтараў прапанаванай кнігі – літаратуразнаўца Антон Адамовіч, паэтка Наталля Арсеннева, дзеяч эміграцыі ў ЗША Уладзімір Брылеўскі, літаратар Юрка Віцьбіч, першы кіраўнік беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленне" Вінцэнт Жук-Грышкевіч, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі Аляксандр Калодка, мовазнаўца Янка Станкевіч, пісьменнік Пётра Сыч, і многія іншыя – кніга мае немалы памер.

Са словаў укладальнікаў, не да канца сабраным, абсалютна не ўпарадкаваным і, адпаведна, практычна не даследаваным застаецца асобны сусвет унутраных матэрыялаў і эпістолярнай спадчыны рэдакцый "Бацькаўшчыны" і "Беларуса". Але, як мы ведаем, Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч не могуць сядзець склаўшы рукі нават хвіліны, і таму існуе немалая верагоднасць, што новы том "Бібліятэкі Бацькаўшчыны" – гэта толькі першы крок на шляху, які тоіць у сабе нямала новых адкрыццяў.




**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны "Будзьма беларусамі!"

# ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА ДЛЯ ДЗЕТАК УЖО ДАСЯЖНЫЯ ДЛЯ СПАМПОЎВАННЯ!




Шаноўныя сябры, нашы дзеці – вельмі ўразлівыя і цікаўныя. Пакуль яны несамастойныя фінансава, залежаць ад нас – сваіх бацькоў, настаўнікаў, то часам пакутуюць ад сваіх аднакласнікаў ды іншых дзяцей. І вельмі важна, каб яны з дзяцінства ведалі свае правы, вучыліся іх адстойваць і абараняць. Ад гэтага залежыць будучыня – і нашая, і іхняя.

Размалёўка, што мы прапануем, можа дзеткам у гэтым дапамагчы. І яна – толькі адзін з крокаў, які мы робім у межах праекта "Маё права". Тэма правоў дзяцей вельмі складаная, але мы з нашымі аўтарамі і кансультантамі паспрабавалі зрабіць яе цікавай дзецям. Вельмі спадзяёмся, што нашая маляванка дапаможа вам пазнаёміць дзяцей з такой няпростай тэмай у прывабнай і цікавай ім форме.

Размалёўку "Ян, Яніна, Васіліна: правы чалавека і дзіцяці ў малюнках" можна спампаваць ужо цяпер на сайце budzma.by, або атрымаць папяровы асобнік бясплатна на нашых спектаклях.

Інтэрактыўную гульню-спектакль можна замовіць для сваёй школы або летніка, напісаўшы на скрыню stasyaky88@gmail.com альбо Viber/WhatsApp/Telegram: 8029-850-45-19. Таксама пры замове кнігі ў краме knihi.by яе можна атрымаць у якасці прыемнага бонусу!

навіны

# У ПОЛЬШЧЫ ЗБІРАЮЦЬ ПОДПІСЫ ЗА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ Ў ПАМЕЖЖЫ

Грамадзянін Польшчы Пшэмыслаў Кучынскі звярнуўся да ваяводы Падляшша і губернатара Любліна з просьбай аб увядзенні беларускай мовы на мяжы з Рэспублікай Беларусь.

Ініцыятыва датычыцца ўсіх інфармацыйных дошак, аўдыё- і візуальных паведамленняў, якія цяпер прадстаўлены толькі па-польску і часам дублююцца па-руску.

Спадар Кучынскі ініцыяваў петыцыю, у якой акцэнтуе ўвагу на тым, што беларуская мова – дзяржаўная мова ўсходняй суседкі Польшчы, і падкрэслівае яе суверэнітэт, а на польскай мяжы з Рэспублікай Беларусь немагчыма знайсці інфармацыю на гэтай мове.




"Перасячэнне мяжы – гэта месца першага кантакту грамадзяніна іншай краіны з тэрыторыяй Рэспублікі Польшча і службамі, якія прадстаўляюць яе вышэйшыя органы ўлады. Штогод мяжу перасякаюць мільёны грамадзян Беларусі, і якасць іх абслугоўвання і імідж краіны маюць вырашальнае значэнне для ўспрымання ўсёй польскай дзяржавы", – прыводзіць аргументы спадар Кучынскі.

Ведаючы пра абмежаваныя фінансавыя рэсурсы ваяводстваў, паралельна ён звяртаецца да міністраў унутраных спраў, фінансаў, замежных спраў Польшчы па дапамогу для мясцовага самакіравання ў працэсе ўвядзення беларускай мовы на польскіх дарожных пераходах з Рэспублікай Беларусь.

Адначасова ён просіць аднолькавай адаптацыі інфармацыйных дошак, аўдыё- і візуальных паведамленняў, знакаў, якія выкарыстоўваюцца памежнай, мытнай і падатковай службамі на ўсіх аб'ектах пры перасячэнні мяжы з Рэспублікай Беларусь.

**Іна Студзінская, svaboda.org**

# ВАШЫНГТОНСКІ АДДЗЕЛ БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАННЯ ЗВЯРНУЎСЯ ДА АМБАСАДАЎ ЕЎРАСАЮЗУ

Вашынгтонскі аддзел Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА), найстарэйшай і найбуйнейшай беларускай арганізацыі ў Злучаных Штатах, звярнуўся да амбасадаў Еўрасаюза ў Вашынгтоне напярэдадні Другіх Еўрапейскіх гульняў, якія пройдуць ў Менску з 21 па 30 чэрвеня.

"Напярэдадні гэтай падзеі і таксама наступнага раўнда дыялогу паміж ЕС і Беларуссю мы яшчэ раз звяртаем вашу ўвагу на сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі", – гаворыцца ў звароце.




Беларуска-амерыканскае задзіночанне падтрымлівае працяг дыялогу па правах чалавека паміж Еўрапейскім Саюзам і Рэспублікай Беларусь і лічыць, што членам і інстытутам ЕС варта працягваць разглядаць правы чалавека як важны пункт у парадку дня Дыялога аб правах чалавека і прыцягваць прадстаўнікоў беларускай праваабарончай супольнасці да Дыялога па правах чалавека, а таксама садзейнічаць стварэнню і развіццю ўнутры Беларусі платформаў для зносін паміж урадавымі ўстановамі і праваабарончай супольнасцю для эфектыўнага выканання абавязацельстваў Беларусі ў галіне правоў чалавека.

"ЕС павінен працягваць аказваць падтрымку грамадзянскай супольнасці Беларусі ў яе намаганнях па абароне і абароне правоў чалавека ў Беларусі і ўключаць кампаненты па правах чалавека ва ўсе праекты, якія рэалізуюцца пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага Саюза, а таксама прыцягваць да іх абмеркавання і рэалізацыі прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці", – заявіў Вячаслаў Бортнік, старшыня Вашынгтонскага аддзела БАЗА.

**novychas.by паводле прэс-рэліза**



# МЭРЫЯ ВІЛЬНІ РЫХТУЕЦЦА ДА ПЕРАПАХАВАННЯ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПАЎСТАННЯ 1863 ГОДА

Віленскае самакіраванне шукае здольных абсталяваць у цэнтральнай капліцы на могілках Росы месца для перапахавання паўстанцаў 1863–1864 гадоў, паведамляе delfi.lt.

У дакументах абвешчанага мэрыяй конкурсу гаворыцца, што ў асноўным памяшканні капліцы неабходна сфармаваць месца пахавання, выбраць матэрыялы і стылістыку саркафагаў (трунаў), прадугледзець іх размяшчэнне, геральдычнае афармленне, асвятленне. Месцы для перапахавання парэшткаў будуць уладкаваныя ў дзвюх круглых нішах, якія захаваліся.

Рашэнне пра перапахаванне на могілках Росы выяўленых на гары Гедзіміна парэшткаў паўстанцаў і іхных лідараў Зыгмунта Серакоўскага і Канстанціна Каліноўскага было прынята год таму. Цырымонію плануюць правесці гэтай восенню.

Урадавая камісія вырашыла імёны перапахаваных паўстанцаў запісаць на літоўскай, польскай і беларускай мовах. Да гэтага часу археолагам на гары Гедзіміна ўдалося выявіць парэшткі 20 паўстанцаў з 21.

**svaboda.org паводле delfi.lt**

# "МАЁ ПРАВА" – ПРАЕКТ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ АД "БУДЗЬМА!"

Як вырашыць канфлікт паміж настаўнікам і вучнем? Што такое булінг і як з ім змагацца? Як адстаяць асабістую прастору? Што рабіць з палавой дыскрымінацыяй ў школе?

Усё гэта тлумачыць і дае парады Наталля Данілава – выкладчык псіхалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэту імя Максіма Танка.

Глядзіце відэа на сайце budzma.by



навіны

# ГАРМОНІЯ КАЛЯРОВАЙ ПАЭЗІІ ЮРАСЯ ШАМЕЦЬКІ

23 чэрвеня ў культурным жыцці беларускамоўнай Атавы (Канада) адбылася значная падзея – імпрэза з нагоды выхаду ў свет новага зборніка вершаў Юрася Шамецькі "Непрадказальнае". На сустрэчу з паэтам да яго ў госці прыйшлі шматлікія аматары паэзіі і проста сябры. Аўтар з натхненнем пазнаёміў слухачоў са сваім новым зборнікам.



"Непрадказальнае" Юрася Шамецькі – гэта пошук гармоніі ў жыцці, спроба звязаць супярэчлівыя і, на першы погляд, несумяшчальныя рэчы і рэчаіснасці: любоў да роднай Беларусі і зноўку пабудаванае жыццё ў Канадзе, успаміны дзяцінства і пульс сучаснасці, адарванасць ад матулінага вогнішча і шчырае канадыйскае асяроддзе.

Калі слухаць вершы Юрася, паступова прыходзіць пачуцце гармоніі, а супярэчнасці зліваюцца ў адну лёгкую і прыемную мастацкую прастору.

Зборнік складаецца з 4 частак: Менск – Вандроўкі – Атава – Каханне. Гэты ланцужок адлюстроўвае розныя старонкі творчасці паэта. Аўтар прызнаецца, што менавіта тут, у Канадзе, ён з большай сілай адчуў шчырасць, дабрыню, пазітыўную энергію свету, якая ў свабоднай прасторы вылілася ў паэтычнае натхненне і патрэбу ў раскрыцці сваіх адчуванняў на роднай беларускай мове.

Юрась з радасцю падзяліўся са слухачамі сваім бачаннем паэзіі. Яна павінна быць каляровай! Разам з такімі крытэрамі, як шчырасць, рытміка, гучанне, паэзія павінна мець яшчэ адзін – прысутнасць колеру. У сваім вершы "Колеры" паэт піша, што "асфальтавая афарбоўка скал нагадвае аб радзіме...", а "...пунсовы лісцік шыфлеры... твае вусны". Такое бачанне згладжвае шмат супярэчнасцяў, бо ў кожным кутку свету магчыма знайсці кавалачак Радзімы.

Увесь час, калі гучалі вершы паэта, у яго голасе панавала адчуванне любові: да каханай жанчыны, да Радзімы, да розных мясцін, куды прыводзіў паэта лёс – і гэта кранала душу.

Музычнае суправаджэнне вечара гарманічна падкрэслівала мілагучную паэзію Юрася Шамецькі. Тонкі спеў скрыпак і гітары то мякка зліваўся з паэтыкай беларускай мовы, то дынамічна ўзрастаў, падтрымліваючы тэматыку і настрой вершаў. Прагучалі музычныя творы Дзмітрыя Камінскага, Карласа Гардэля, Астара П'яцолы, Антоніа Вівальдзі, Фелікса Мендэльсона і іншых кампазітараў у выкананні дуэта "Кантабіле" (Уладзя Шамецька і Міхась Рыкаў) і Галіны Рэзаіпур.

Шчырая ўвага слухачоў і шчодрыя апладысменты сталі паважнай адзнакай таго, што вершы і музыка кранулі сэрцы і думкі слухачоў.

Час імпрэзы праляцеў хутка, а напрыканцы Юрась з задавальненнем падпісаў кнігі сваім прыхільнікам.

Старшыня Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Канадзе Пётра Мурзенак выступіў з удзячнай прамовай: "У мінулым на эміграцыі было шмат яркіх паэтаў, імёны якіх ўвайшлі ў беларускую літаратуру. Гэта Наталля Арсеннева, Рыгор Крушына, Алесь Салавей, Масей Сяднёў. На Радзіме, у беларускай грамадзе, і ў Канадзе, у розных суполках, Юрась Шамецька таксама папулярызуе беларускую культуру. Пакуль існуе беларуская паэзія, будзе жыць Беларусь ".

Прывяду яшчэ адзін са шматлікіх удзячных водгукаў слухачоў. Сваімі думкамі падзяліліся Вольга і Раман Бакушчыкі: "Паэт – як агонь. Яго полымя – гэта выбітныя ўражанні ад прыгажосці прыроды, цікавых вандровак, думак аб Радзіме; але жар гэтага полымя – унутраны, з сэрца, з душы. Вершы Юрася – часам тонкае павуцінне пяшчоты і гарачае каханне; часам філасофскія, яны адлюстроўваюць глыбокую ўнутраную энергію; часам працятыя гаркатой і боллю ад разлукі з Радзімай і матуляй. Кожная яго новая кніга – адкрыццё, асалода прыгажага слова! Мы – яго прыхільнікі назаўсёды. Чакаем новых твораў!"

**Наталля Захарава,**
**Атава, чэрвень 2019**

# СВЯТКАВАННЕ КУПАЛЛЯ: ЗААКІЯНСКАЯ ВЕРСІЯ

Быць беларусам – у першую чаргу значыць атаясамліваць сябе з беларускім народам і мець далучанасць да ягоных культурных традыцый, незалежна ад этнічнага паходжання, грамадзянства або месца жыхарства. Менавіта гэты пастулат у чарговы раз падцвердзілі шматлікія ўдзельнікі святкавання Купалля, якое адбылося ў ноч з 22 на 23 чэрвеня ў штаце Нью-Ёрк.



Апрача непасрэдных жыхароў мегаполіса і ваколіц, на імпрэзу з'ехаліся госці яшчэ з чатырох суседніх штатаў. У бягучым годзе мерапрыемства аказалася самым масавым за апошніе дзесяцігоддзе адзначэння Купалля ў ЗША. І старыя, і малыя ахвотна бавілі час на прыродзе, частаваліся дранікамі і адмыслова прыгатаваным крупнікам, бралі ўдзел у вясёлых гульнях і дэманстравалі сваю дасведчанасць на ўроку беларускай мовы, удзельнічалі ў карагодзе і скоках праз вогнішча, шукалі папараць-кветку і купаліся пры святле зорак. Як звычайна, большасць прысутных была апранута ў нацыянальныя строі, што дбайна захоўвае спадарыня Валянціна Якімовіч.

Прыемнай неспадзяванкай аказаўся акустычны выступ нядаўна створанага амерыканскімі беларусамі гурта KAZINAK. А меркаванне наконт таго, што нашы людзі рэдка ўсміхаюцца і слаба праяўляюць эмоцыі з лёгкасцю было абвергнута – мноства прыгожых твараў проста свяцілася ад шчырых усмешак, а жартаўлівыя гутаркі доўжыліся да раніцы.

З улікам таго, што Купалле са старажытных часоў без перабольшвання з'яўляецца святам, якое любяць і шануюць беларусы з самымі рознымі жыццёвымі поглядамі і веравызнаннямі, ягонае святкаванне даўно ўжо магло б стаць нашым своеасаблівым нацыянальным брэндам і паспяхова распаўсюдзіцца амаль па ўсім свеце, як гэта, у прыватнасці, адбылося з ірландскім Днём Святога Патрыка.

А пакуль што, дзякуючы намаганням арганізатараў – аб'яднанню "Пагоня" і суполцы "Беларусы ЗША. Разам лягчэй" – рамантычныя купальскія звычаі з кожным годам аб'ядноўваюць усё больш землякоў, якія пражываюць на амерыканскім кантыненце і не хочуць губляць повязь з беларушчынай.

**Ірына Хадарэнка, прэзідэнт**
**Беларускай асветніцкай лігі Амерыкі**

спорт

# У Нью-Ёрку прайшоў футбольны турнір Prakapenka Cup памяці беларускага футбаліста

Арганізатарам спаборніцтваў, якія плануюцца як штогадовыя, стаў Зміцер Пракапенка, сын аднаго з найлепшых футбалістаў Беларусі 1980-х гадоў Аляксандра Пракапенкі.

Першы дзіцячы турнір у футболе памяці алімпійскага прызёра 1980 года, чэмпіёна СССР 1982 года Аляксандра Пракапенкі прайшоў пры падтрымцы дзіцячых і юнацкіх структур амерыканскага сокера – United Champions Soccer League, Queens City Soccer Academy (у Амерыцы еўрапейскі футбол называюць сокерам. – РС).

Гульні абслугоўвалі прафесійныя арбітры Нацыянальнай прэм'ер-лігі (NPL), якія працуюць на матчах дарослых камандаў.

Адным з партнераў выступіў этна-рэстаран "Беларуская хата", заснаваны беларускім бізнесоўцам Маратам Новікавым.

Як расказаў Свабодзе Зміцер Пракапенка, які ўжо 20 гадоў жыве ў Нью-Ёрку (разам з маці яны пераехалі неўзабаве пасля смерці бацькі), у турніры бралі ўдзел 24 дзіцячыя калектывы, разбітыя на тры ўзроставыя групы: па 8 камандаў U8, U10, U12. Кожную, у сваю чаргу, арганізатары падзялілі на дзве падгрупы па 4 каманды. Пераможцы квартэтаў высвятлялі адносіны ў вырашальных паядынках: гэта каманды Queens City FC, Coney Island Cyclones, Bridgeview, Chelsea SI.

Незалежна ад занятага месца, усе ўдзельнікі былі адзначаныя памятнымі сувенірамі, а прызёры атрымалі медалі і кубкі імя Аляксандра Пракапенкі, а таксама адмысловыя сертыфікаты ад "Беларускай хаты".

У ЗША Зміцер Пракапенка мае рэкламны бізнес, а для задавальнення вось ужо два дзясяткі гадоў гуляе ў аматарскіх сокерных лігах. Знайшоў сябе як прапагандыст масавага футболу праз спадчыну свайго славутага бацькі.

### Як ушанавалі Аляксандра Пракапенку ў Беларусі

У Беларусі праз ягоныя высілкі імем Аляксандра Пракапенкі названы стадыён на яго радзіме ў Бабруйску, там жа гарадская адміністрацыя ўхваліла ўстаноўку помніка. Таксама выйшлі кніга і дакументальны фільм, а сёлета ў сакавіку да 30-годдзя заўчаснай смерці народнага футбаліста "Беларускія песняры" прэзентавалі песню "Бела-сіняя зорка".

Таксама Зміцер марыць пра тое, каб з'явілася скульптура на тэрыторыі мінскага стадыёна "Дынама" – тут цягам 10 гадоў аматары віталі свайго ўлюбёнца. Ёсць ідэя зняць мастацкі фільм. Галоўная мэта актыўнасці – нагадаць беларусам, што на гэтай зямлі таксама быў свой Пеле, Марадона і Раналду ў адной асобе. Чалавек, які шмат дасягнуў у сваёй справе і кім землякі па праве могуць ганарыцца.

У сезоне 2017–2018 Зміцер Пракапенка адпрацаваў у клубнай сістэме мінскага "Дынама", дапамагаў з арганізацыяй маркетынгавай палітыкі. Паралельна спадзяваўся рэалізаваць праект футбольнай акадэміі імя Аляксандра Пракапенкі, але на шляху ініцыятывы паўсталі бюракратычныя бар'еры.

Зрэшты, задума ўсё ж будзе рэалізаваная – праўда, не ў Мінску, а ў Нью-Ёрку, дзе няма ніякіх перашкод. Цяпер высілкі Зміцра сканцэнтраваныя на арганізацыі адпаведнай інфраструктуры.

### Кім быў Аляксандр Пракапенка

"Пракоп", як па-сяброўску называлі аднаклубнікі Аляксандра Пракапенку, – адзін з самых уганараваных беларускіх футбалістаў: майстар спорту міжнароднага класа, бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў – 1980, гулец зборнай Савецкага Саюза, чэмпіён СССР 1982 года ў складзе "Дынама" (Менск), № 1 у спісе 33 найлепшых футбалістаў першынства ў год дынамаўскага трыумфу.

Нарадзіўся 16 лістапада 1953 года ў Бабруйску, гуляў за родную школу № 3, потым у мясцовай камандзе "Будаўнік". У 19-гадовым узросце, яшчэ падчас вучобы ў Беларускім інстытуце фізкультуры, атрымаў запрашэнне ў мінскае "Дынама".

Гэта быў адзін з гульцоў, на якога ішлі глядзець адмыслова. За "Дынама" ён забіў супернікам больш за паўсотні галоў.

Аднак маральны і псіхалагічны груз аказаўся занадта цяжкім для хлопца з Бабруйску.

У 1983-м, ужо на наступны год пасля перамогі мінскага клуба ў першынстве СССР, яго адлічылі з каманды за "сістэматычнае парушэнне рэжыму", празмернае ўжыванне алкаголю. Двойчы за наступныя пяць гадоў ён аказваўся ў лячэбна-працоўным прафілакторыі, хоць у перапынках яшчэ выступаў за мінскае "Тарпеда", магілёўскі "Дняпро" і бакінскі "Нефтчы" – але без былога імпэту.

Памёр 29 сакавіка 1989-га, неўзабаве пасля вяртання з мазырскага ЛТП. Удавой засталася маладая жонка Наталля, сіратой – 12-гадовы сын Зміцер. Аляксандр Пракапенка пахаваны на могілках вёскі Такары Бабруйскага раёна, у роднай вёсцы ягонай мамы, настаўніцы беларускай мовы.

**Ігар Карней, svaboda.org**



Зьміцер Пракапенка (Courtesy Photo)

навіны

# Беларусы Швецыі перадалі ліст міністру міжнароднай падтрымкі Петэру Эрыксану

1 ліпеня Беларусы Швецыі перадалі ліст міністру міжнароднай падтрымкі ў Швецыі Петэру Эрыксану.

Тэмай звароту стала пытанне назвы краіны на шведскай мове Vitryssland (белая расія), якое дагэтуль выкарыстоўваецца большасцю афіцыйных актораў, у справаводстве і грамадстве. Мы лічым, што ўжыванне Vitryssland павінна пачынацца са змены назвы краіны на Belarus у дакументах МЗС. Нас падтрымалі каля 40 арганізацый і іншых асобаў. МЗС Швецыі пацвердзілі, што атрымалі ліст, і мы з нецярпеннем чакаем адказу.

**Ліст на англійскай мове чытайце на сайце zbsb.org.**

кніга

# “НАРЭШЦЕ ТАК ЗВАНЫ БЕЛЫ ДОМ ПАЧАРНЕЎ АД АГНЮ…”. ПРАЦЯГ ДЗЁННІКАЎ НАРОДНАГА ПАЭТА

Добрая навіна для тых, хто ўпадабаў “Дзённікі і запісы” Рыгора Барадуліна, але даўным-даўно “праглынуў” папярэднія выпускі і цяпер сумуе без улюбёнай чытанкі.

Дзякуючы нястомнасці ўкладальніцы Наталлі Давыдзенка супольная серыя Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” і “Саюза беларускіх пісьменнікаў” пабагацела на яшчэ адну кнігу раней невядомай спадчыны дзядзькі Рыгора.

Шосты выпуск ахоплівае перыяд 1992–1993 гг., які ў памяці многіх беларусаў застаўся, з аднаго боку, як час глыбокага крызісу і шалёнай інфляцыі, а з іншага – як эпоха нечуванага ўздыму грамадскай актыўнасці. Зрэшты, фінансавыя і арганізацыйныя праблемы не абмінулі таксама і беларускіх пісьменнікаў з выдаўцамі, таму ўважлівы чытач адразу адзначыць для сябе амаль поўную адсутнасць пісьменніцкіх справаздач з замежных паездак у параўнанні з папярэднімі тамамі. Затое на долю менавіта гэтай кнігі выпаў гонар змясціць зацемкі з той самай вандроўкі, пра якую Рыгор Барадулін сапраўды шчыра марыў – падарожжа ў Іерусалім, “адзінае вандраванне, куды імкнецца душа мая”.

Менавіта ў гэты насычаны актыўнай грамадскай дзейнасцю перыяд жыцця Рыгора Барадуліна, паміж ўдзелам у соймах Беларускага Народнага Фронту, пасярод дзён, запоўненых клопатам аб уладкаванні Беларускага ПЭН-Цэнтра і працай над падрыхтоўкай да выдання шматлікіх збораў твораў (у тым ліку рэпрэсаваных пісьменнікаў, з творчасцю якіх маладая Беларусь толькі рыхтавалася пазнаёміцца), яму якраз і было нададзена ганаровае званне – яго імя да сёння замыкае спіс народных паэтаў Беларусі.

Таксама з дзённікаў можна даведацца пра акалічнасці працы пісьменніка ў новым для сябе кірунку – працы над стварэннем дакументальных фільмаў. І ў якасці сцэнарыста, і ў якасці чальца здымачнай групы.

Як і ў мінулыя гады, запісы паэта не абмяжоўваюцца простай фіксацыяй адзнакаў эпохі. Шосты выпуск утрымлівае больш за сто вершаў, якія раней не выдаваліся ў зборніках.

Са словаў укладальніцы Наталлі Давыдзенка, плённая праца над наступнымі выпускамі дзённікаў Барадуліна ў самым разгары, таму ўсім ахвотным варта паспяшацца з набыццём кнігі, пакуль яна не зрабілася бібліяграфічнай рэдкасцю.

**Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС ”Бацькаўшчына”**




навіны

## БЕЛАРУСКАЕ ВЯСЛО

На плошчы ў Краславе – ладдзя з пяццю вёсламі, якія сімвалізуюць латышскую, рускую, польскую, беларускую і яўрэйскую народнасці, што тут пражываюць.

1 чэрвеня ў Краславе каля замка Плятэраў адбыўся Дзень беларускай культуры, прысвечаны беларускаму вяслу, які быў арганізаваны Генеральным консульствам Беларусі ў Даўгаўпілсе сумесна з Краслаўскай краявой думай.

Прысутных віталі генеральны консул Беларусі ў Даўгаўпілсе, старшыня Краслаўскай краявой думы і старшыня Глыбокскага раённага савета.

Свята праходзіла ў Міжнародны дзень абароны дзяцей, таму дзецям надзялялася асаблівая ўвага, для іх праводзіліся майстар-класы і конкурсы.

Сябры беларускага таварыства “Уздым” Жанна Раманоўская і Марыя Памецька размясцілі выставу беларускіх ручнікоў.

У святочным канцэрце з беларускімі народнымі і аўтарскімі песнямі прымалі ўдзел беларускія народныя ансамблі: з Глыбокага – “Цярэшка”, з Дагды – “Аколіца”, з Эзэрніекаў – “Tautību studija”, з Краславы – “Накцюрн”.

Каб мерапрыемства прайшло на высокім узроўні, свае старанні прыклалі сябры краслаўскага беларускага тасарыства “Вясёлка” разам са старшынёй Святланай Стэльмачонак і намеснікам старшыні Аляксандрам Клімавым, старшыня дагдскага беларускага таварыства “Вербіца” Таццяна Гагалінская.

Сярод гасцей свята былі старшыня ліванскага славянскага таварыства “Узоры” Лідзія Знотыня і саліст ансамбля “Узоры” Яўген Пашкевіч, які нарадзіўся і правёў дзіцячыя і юнацкія гады ў Краславе.



Для ўсіх, хто тут прысутнічаў, меўся пачастунак: дранікі з яечняй.

Сярод шматлікіх песен, якія прагучалі, я быў рад пачуць таксама песні на свае словы: “Маэстра-вецер” – у выкананні ансамбля “Накцюрн” і “Дранікі” – у выкананні ансамбля “Аколіца”.

**Станіслаў Валодзька**

## СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ ПРЭЗЕНТАВАЎ НОВУЮ КНІГУ ЎСПАМІНАЎ

З успамінамі пра мінулае, з думкай пра будучыню. Станіслаў Шушкевіч сустрэўся з адданымі чытачамі ды прэзентаваў кнігу “Маё жыццё, крах і ўваскрашэнне СССР. 25 гадоў пазней”.

Выданне складаецца са шматлікіх эсэ першага кіраўніка незалежнай Беларусі і дапоўненая фотаздымкамі, якія Станіслаў Шушкевіч рабіў ад 1946 года. На пяцістах старонках размешчаныя 300 фота.

Выдаваць свае ўспаміны першаму кіраўніку незалежнае Беларусі давялося за мяжою – ва Украіне. У нашай краіне гэта пакуль немагчыма. Але Станіслаў Шушкевіч спадзяецца, што светлая будучыня ёсць і ў Беларусі: “У мяне і напісана на кніжцы: «Прысвечана беларускай моладзі, якая прывядзе Беларусь у Еўропу». Я перакананы, што толькі гэтыя сілы маладыя вырашаць большасць нашых складаных пытанняў”.

Станіслаў Шушкевіч зазначае: яму яшчэ вельмі хочацца распавесці нешта людзям. А таму спыняцца ён не думае і будзе пісаць далей. Абы толькі здароўе дазволіла.

**novychas.by**
**паводле “Белсат”**



навіны

# МЕДАЛІ ДА СТАГОДДЗЯ БНР, УРУЧАНЫЯ Ў ЧЭРВЕНІ

Уручэнні медалёў адбываліся цягам месяца ў Варшаве (Польшча), Лондане (Вялікабрытанія) Нью-Ёрку (ЗША), Празе (Чэхія), Віцебску і Мінску.



**Багдан Андрусішын (Данчык)** – намеснік дырэктара беларускае службы "Радыё Свабода", у канцы 80-х і пачатку 90-х праславіўся як выбітны беларускі спявак.

**Аляксандр Лукашук** – шматгадовы кіраўнік беларускае службы "Радыё Свабода", дзякуючы каму радыё замацавала сваю пазіцыю як аднаго з найбольш якасных і ўплывовых СМІ Беларусі.

**Сяргей Шупа** – рэдактар "Радыё Свабода", выбітны даследчык і перакладчык, складальнік маштабнага зборніка архіўных дакументаў Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Карэл Шварцэнберг** – сенатар, у мінулым міністр замежных спраў і намеснік прэм'ер-міністра Чэхіі, які адзначыўся актыўнай пазіцыяй у барацьбе за дэмакратыю і правы чалавека ў Беларусі

**Барыс Хамайда** – журналіст, актывіст і праваабаронца, адзін з лідараў грамадзянскай супольнасці Віцебска на працягу апошніх трыццаці гадоў, які неаднаразова цярпеў пераслед і ціск уладаў за сваю дзейнасць.

**Сяргей Каваленка** – актывіст і былы палітычны вязень, неаднаразова асуджаны за публічнае вывешванне беларускага нацыянальнага сцягу ў Віцебску і ў тым ліку асуджаны да трох гадоў пакарання ў 2010 годзе. Падчас увязнення Каваленка трымаў галадоўку і цярпеў катаванні. За Сяргея Каваленку медаль атрымала ягоная жонка Алена.

**Агнешка Рамашэўска-Гузы** – вядомая польская журналістка, у мінулым адмысловы карэспандэнт і рэдактар міжнароднае рэдакцыі Польскага тэлебачання. У 2004–2005 гг. яна ў якасці карэспандэнта асвятляла падзеі ў Беларусі. У снежні 2005 г. улады Беларусі скасавалі яе візу. Ад снежня 2007 г. А. Рамашэўска-Гузы ўзначальвае беларускі тэлеканал "Белсат", створаны пры міжнароднай падтрымцы ў складзе Польскага тэлебачання. Перад гэтым яна выступіла аўтарам канцэпцыі тэлеканала.

**Станіслаў Шушкевіч** – сябра Вялікай Рады "Бацькаўшчыны", Старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі XII склікання, першы галава адроджанай незалежнай беларускай дзяржавы з 1991 па 1994 гг., падпісант ад імя Беларусі Белавежскіх пагадненняў і першых дзяржаватворчых дакументаў Беларусі.

**Сяргей Антончык** – дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі XII склікання, сябра Апазіцыі БНФ, якая сталася галоўным рухавіком дэмакратычных пераменаў у Беларусі ў 1990 – 1991 гг.

**Уладзімір Арлоў** – сябра Вялікай Рады "Бацькаўшчыны", выбітны літаратар і гісторык, адзін з найбольш яскравых папулярызатараў беларускае гісторыі, аўтар шматлікіх мастацкіх і навукова-папулярных твораў.

**Радзім Гарэцкі** – выбітны беларускі навуковец-геолаг, сябра Акадэміі Навук Беларусі, а таксама шматгадовы грамадскі актывіст, сябра Вялікай Рады "Бацькаўшчыны" і Таварыства беларускае мовы імя Ф. Скарыны, публіцыст.

**Святлана Алексіевіч** – сусветна вядомая беларуская пісьменніца і журналістка, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры, якая распавяла свету пра выпрабаванні, праз якія ў XX стагоддзі прайшлі беларусы разам з іншымі народамі былога СССР. Святлана Алексіевіч не змагла асабіста прысутнічаць на цырымоніі з-за хваробы, медаль ёй будзе перададзены У. Арловым.

**Томас Бёрд (Thomas E. Bird)** – шматгадовы амерыканскі даследчык і папулярызатар Беларусі ў свеце, аўтар і суаўтар некалькіх навуковых працаў пра Беларусь.

**Вячаслаў Бортнік** – беларуска-амерыканскі грамадскі дзеяч і праваабаронца, у мінулым старшыня беларускай філіі Amnesty International, старшыня аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Вашынгтоне, сябра Вялікай Рады "Бацькаўшчыны", старшыня каардынацыйнай групы Amnesty International па Еўразіі, Сакратар Рады БНР.

**Валер Дворнік** – актыўны дзеяч беларускае дыяспары ў Нью-Ёрку.

**Янка Запруднік** – сябра Вялікай Рады "Бацькаўшчыны", гісторык, публіцыст, дзеяч беларускае дыяспары ў ЗША, аўтар некалькіх навуковых працаў па беларускай гісторыі.

**Вітаўт Кіпель** – дзеяч беларускае дыяспары ў ЗША, публіцыст, даследчык, аўтар некалькіх кнігаў па гісторыі Беларусі і беларускае дыяспары ў ЗША.

**Ала Орса-Рамана** – дзеяч беларускае дыяспары ў ЗША, дабрачынца, якая шмат адзначылася на ніве папулярызацыі Беларусі і беларускае культуры ў ЗША.

**Зянон Пазняк** – выбітны палітык і дзяржаўны дзеяч, лідар Беларускага Народнага Фронту і Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі ў канцы 80-х і пачатку 90-х. Стаяў на чале ўсенароднага беларускага руху ў падтрымку незалежнасці і дэмакратычных рэформаў. Беларускі Народны Фронт дабіўся аднаўлення дзяржаўнае незалежнасці Беларусі пасля больш як 70 гадоў савецкае акупацыі, дэпутаты БНФ у парламенце Беларусі заклалі заканадаўчы падмурак функцыянавання Беларусі як суверэннай дзяржавы.

**Вячка Станкевіч** – журналіст і дзеяч беларускае дыяспары ў ЗША, у мінулым дырэктар беларускае службы "Радыё Свабода" і Старшыня Галоўнай управы Беларуска-Амерыканскага Задзіночання.

**Ганна Сурмач** – журналіст і грамадскі дзеяч, сябра Вялікай Рады і ў 1993 годзе старшыня ЗБС "Бацькаўшчына", арганізатар першага З'езду беларусаў свету.

**Дэвід Сўортц (David H. Swartz)** – першы амбасадар ЗША ў Беларусі.

**Валянціна Трыгубовіч** – мастацтвазнаўца, палітычны актывіст і грамадскі дзеяч, даследчыца творчасці беларускіх мастакоў, у тым ліку прадстаўнікоў беларускае дыяспары ў ЗША.

**Зміцер Вайцюшкевіч** – выбітны спявак, які быў узнагароджаны за шматгадовую плённую працу па папулярызацыі беларушчыны.

**Барыс (Пятровіч) Сачанка** – сябра Вялікай Рады "Бацькаўшчыны", беларускі літаратар і журналіст, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, заснавальнік і галоўны рэдактар часопіса "Дзеяслоў", галоўнага літаратурна-мастацкага выдання Беларусі.

**Паводле radabnr.org**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛІПЕНЬ 2019 ГОДА

**1 ліпеня**

- 115 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Генрык Глябовіч, святар, тэолаг

**2 ліпеня**

- 25 гадоў таму, у 1994-м, памёр Іван Ласкоў, пісьменнік

**6 ліпеня**

- 35 гадоў таму, у 1984-м, памёр Аляксандр Вернікоўскі, праваслаўны святар

**8 ліпеня**

- 130 гадоў таму, у 1889-м, памёр Фларыян Міладоўскі, кампазітар, піяніст

**14 ліпеня**

- 25 гадоў таму, у 1994-м, памёр Пётр Конюх, спявак, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Бельгіі, ЗША і Канадзе

**16 ліпеня**

- 145 гадоў таму, у 1874-м, памёр Віктар Гельтман, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

**19 ліпеня**

- 100 гадоў таму, у 1919-м, памёр Юзаф Беркман, жывапісец, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

**25 ліпеня**

- 135 гадоў таму, у 1840-м, нарадзіўся Аляксандр Вернікоўскі, праваслаўны святар
- 100 гадоў таму, у 1919-м, памёр Іван Хлябцэвіч, праваслаўны духоўнік, краязнавец
- 35 гадоў таму, у 1984-м, памёр Уладзімір Караткевіч, народны пісьменнік Беларусі

**26 ліпеня**

- 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Янка Макарэвіч, паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі

**27 ліпеня**

- 75 гадоў таму, у 1944-м, нарадзіўся Валянцін Шаўцоў, педагог
- 50 гадоў таму, у 1969-м, памёр Яўхім Кіпель, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**28 ліпеня**

- 140 гадоў таму, у 1879-м, нарадзіўся Васіль Рагуля, грамадска-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і ЗША

**29 ліпеня**

- 15 гадоў таму, у 2004-м, памёр Язэп Юхо, юрыст, гісторык права

**31 ліпеня**

- 70 гадоў таму, у 1949-м, прайшоў першы з'езд Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА)

**Беларусы ў свеце**
№ 6 (205), чэрвень 2019

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 370-10-12